Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 300
Адрас для карэспандэнцыі: 220088,
г.Мінск,вул. Іванаўская, 56
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Аўторак, 20 кастрычніка 1998 г. № 112 (504) Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Пасланец ААН наведае зону

**Сёння ў Беларусь з двухдзённым рабочым візітам прыбывае намеснік генеральнага сакратара ААН Серджыа Віейра дэ Мела, які каардынуе гуманітарныя праграмы.**

Па дарозе з Кіева ў Мінск ён пабывае ў раёнах, якія пацярпелі ад Чарнобыльскай катастрофы. Намеснік генсека ААН наведае прыкладна дзесяць населеных пунктаў, сярод якіх Хойнікі, вёскі Савічы, Выграбная Слабада і іншыя. Пасля сустрэчаў з беларускімі афіцыйнымі асобамі ў Мінску спадар Віейра дэ Мела накіруецца ў Расію.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Камісія па АЭС рыхтуе заключэнне

**У Акадэміі навук адбылося паседжанне ўрадавай камісіі па ацэнцы мэтазгоднасці будаўніцтва АЭС у Беларусі. Пераважная большасць членаў камісіі выказаліся за рэалізацыю гэтай ідэі.**

Як заявілі «атамшчыкі», яны дбаюць аб «энергетычнай незалежнасці Беларусі». Выступы супраць будаўніцтва АЭС расцэньваюцца імі як «цемрашальства» і ганенне на перадавую думку. *«Мы гэта ўжо праходзілі ў свой час з генетыкай і кібернетыкай»*, — заявіў адзін з «перадавікоў». Асабліва дасталося ад іх сродкам масавай інфармацыі. Прыхільнікі «мірнага атама» лічаць, што з падачы СМІ *«нашыя людзі ўжо баяцца АЭС як СНІДу»*. Наступнае паседжанне камісіі (яе ўзначальвае дырэктар Інстытута праблемаў энергетыкі Аляксандр Міхалевіч) адбудзецца праз месяц. Канчатковыя высновы камісія павінна падрыхтаваць да 1 студзеня 1999 г. Як выказаўся адзін з экспертаў, *«наша задача — даць аб'ектыўную і праўдзівую інфармацыю, а прэзідэнт і ўрад ужо самі прымуць рашэнне, будаваць ці не будаваць АЭС у Беларусі»*.

**Наталля ВАЛАКІДА**

## Варшаўская рэзалюцыя

**Міжнародная канферэнцыя па правах чалавека, якая адбылася ў Варшаве напрыканцы мінулага тыдня, прыняла рэзалюцыю аб становішчы з правамі чалавека ў Беларусі.**

Адзначыўшы, што гэтае становішча ўсё больш пагаршаецца, удзельнікі канферэнцыі выказалі занепакоенасць ганеннямі на незалежную прэсу, прыгнётам прыватнай ініцыятывы, наяўнасцю палітвязняў і адсутнасцю незалежнай судовай сістэмы, а таксама шэрагам іншых рэаліяў жыцця Беларусі. Зазначана, што *«ў Беларусі на практыцы не забяспечваецца права выбару мовы навучання»*, *«законна абраныя дэпутаты Вярхоўнага Савета па-ранейшаму пазбаўленыя сваіх правоў»* і г.д.

Праваабаронцы з усяго свету выказалі салідарнасць з дэмакратычнымі сіламі Беларусі і заклікалі беларускія ўлады прытрымлівацца міжнародных нормаў у галіне правоў чалавека. Асобна патрабуецца неадкладна вызваліць з-за кратаў дэпутатаў А.Клімава, У.Кудзінава і іншых палітычных вязняў.

**Змiцер ЛІХТАРОВІЧ**




*Канфіскацыі на вёсцы працягваюцца: дзяржава вымушае калгаснікаў прадаваць сельгаспрадукцыю за бясцэнак.*

# Галодная і халодная інтэграцыя

## *Даўгі за газ пагашаем прадуктамі*

**У пятніцу ў Маскве адбылося паседжанне выканкама Саюза Беларусі і Расіі, у якім прынялі ўдзел прэм'ер-міністры Сяргей Лінг і Яўген Прымакоў.**

Кіраўнік расійскага ўрада заявіў, што пачалася *«інтэнсіўная прыцірка пазіцыяў»*, якая павінна скончыцца эканамічным збліжэннем саюзнікаў.

Сяргей Лінг і Яўген Прымакоў падпісалі 5 пагадненняў. Адно з найбольш актуальных прадугледжвае новы варыянт пагашэння доўгу Беларусі «Газпрому». У адпаведнасці з гэтым пагадненнем наша краіна будзе разлічвацца за расійскі газ прадуктамі харчавання. Прадстаўнік прэзідэнта ў органах інтэграцыі Васіль Далгалёў запэўніў, што *«з боку Беларусі ніякіх затрымак у пагашэнні запазычанасці не будзе»*. Цяпер наш доўг «Газпрому» складае 230 мільёнаў долараў. Па словах В.Далгалёва, *«гэта не доўг, гэта дробязь»*. Разлікі з Расіяй ужо пачаліся. Як сказаў В.Далгалёў, *«вядуцца масіраваныя пастаўкі ў Маскву тысяч тон мяса, птушкі, бульбы, масла, малака і г.д.»*. Такая інтэграцыя, маўляў, *«як лакаматыў, набірае ход»*.

Не сакрэт, што ў сувязі з фінансавым крызісам у Расіі мяса і малака цяпер не хапае. Расійскі ўраджай зерневых сёлета таксама значна ніжэйшы, чым летась. Урад Прымакова збіраецца стварыць надзвычайны харчовы рэзерв. Харчовай праблемай заняўся нават патрыярх Алексій II, які за паглыбленне інтэграцыі атрымаў ад Лукашэнкі бясплатна сотні тон харчавання для расійскіх манахаў.

Беларускі бок вельмі задаволены дасягнутым варыянтам пагашэння доўгу, інакш без паліва давялося б памерзнуць сёлетняй зімой, якая, па прагнозах сіноптыкаў, будзе надта халоднай.

Але беспераборны «лакаматыў» з харчаваннем, які імчыцца з Беларусі ў Расію, стварае дэфіцыт на ўнутраным рынку. Нават міністр гандлю вымушаны прызнаць, што ўзнікаюць *«перабоі па асобных таварах»*. А як справіцца з цэнамі — наогул ніхто не ведае.

Яшчэ адно пагадненне, падпісанае ў Маскве з Я.Прымаковым, закранае не менш знаёмую тэму. Расія згадзілася выдаць дзяржаўны крэдыт для вытворчасці рукавіцоў на Яраслаўскім маторабудаўнічым прадпрыемстве, якія даўно чакаюць на Мінскім аўтазаводзе.

У час сустрэчы прэм'ераў усплыло яшчэ адно даўняе пагадненне, якое прадугледжвае продаж расійскіх прыродных алмазаў Беларусі. Нагадаем, што гады два таму расійскі бок абяцаў паставіць якуцкія каштоўныя камяні на гомельскі завод «Крышталь». Прэм'еры збіраюцца зрушыць і гэтую саюзную справу з мёртвай кропкі.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Шэйман і кампанія вярнуліся жывымі

**Позна ўвечары ў суботу беларускі дэсант на чале з генералам Віктарам Шэйманам без стратаў вярнуўся з Бялграда ў Мінск.**

Беларускія «міратворцы» правялі ў Югаславіі тры дні. Як паведамілі ў прэс-службе Савета бяспекі, далейшае знаходжанне дэлегацыі кіраўніцтва нашай краіны прызнала «немэтазгодным».

У Югаславіі генерал Шэйман пакуль не стаў нацыянальным героем, але меў сустрэчы з прэзідэнтам Мілошавічам, з югаслаўскім генштабам і нават пабываў у Косава. У канферэнц-зале бялградскага гатэля ён выступіў з заявай, якую пракруцілі не толькі па югаслаўскім, але і па беларускім тэлебачанні. Віктар Шэйман нагадаў, што *«Беларусь адна з нямногіх еўрапейскіх краін, якая адкрыта выступіла з асуджэннем планаў NATO»*. Па словах генерала, *«спадзяванні на трансфармацыю NATO не спраўдзіліся»*. Віктар Шэйман абвінаваціў паўночнаатлантычны альянс у агрэсіі: *«На нашых вачах адкрыта ажыццяўляецца спроба разбурыць асновы існуючага парадку ў свеце, падарваць аўтарытэт і ўплыў ААН»*. У прэс-службе СБ не далі канкрэтнага адказу на наша пытанне наконт таго, ці паляціць генерал Шэйман яшчэ раз у Югаславію выконваць свой «славянскі доўг».

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Трымайся, NATO!

Расія ўзялася мадэрнізаваць зенітныя ракетныя комплексы «Бук», якія стаяць на ўзбраенні супрацьпаветраных войскаў Беларусі, паведамляе ІТАР—ТАСС.



# Тры крокі – і Крэмль наш

**На сесіі парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі, якая пройдзе 2—3 лістапада ў Яраслаўлі, «інтэгратары» збіраюцца зацвердзіць канцэпцыю аб'яднання дзвюх краінаў у адзіную федэратыўную дзяржаву.**

Пра гэта паведаміў агенцтву «Інтэрфакс» дэпутат ніжняй палаты прэзідэнцкага парламента Валерый Драко, які прадстаўляе Беларусь у міжпарламенцкай рабочай групе па выпрацоўцы саюзнага заканадаўства.

Па яго словах, інтэграцыйны план складаецца з трох этапаў. Першы этап — гэта правядзенне ў Расіі і Беларусі рэферэндуму аб аб'яднанні. Другі — унясенне ў канстытуцыі абедзвюх краінаў палажэнняў аб наднацыянальных органах кіравання. На трэцім этапе павінны адбыцца прамыя выбары ў саюзны парламент.

Акрамя гэтай канцэпцыі, «інтэгратары» збіраюцца вынесці на разгляд яраслаўскай сесіі мадэль фармавання двухпалатнага заканадаўчага органа Саюза. Ніжнюю палату саюзнага «парламента», дзе плануецца 100 дэпутатаў ад Расіі і 10 ад Беларусі, будуць абіраць грамадзяне абедзвюх краінаў. Верхняя палата, згодна праекта, павінна складацца з 50 парламентарыяў — па 25 чалавек ад кожнай краіны. Дэлегаваць гэтых дэпутатаў будуць нацыянальныя парламенты, якія, па словах Драко, захаваюцца толькі на пераходны перыяд — пакуль, маўляў, патрэба ў іх адпадзе.

Правесці тры інтэграцыйныя этапы арганізатары аб'яднання плануюць фарсіраванымі тэмпамі. У пачатку лістапада яны хочуць зацвердзіць канцэпцыю, вясной 1999 г. правесці рэферэндум, а восенню — выбары саюзнага парламента, які абярэ кіраўніка новай дзяржавы і прэм'ера ўрада.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## «Ведамасці» ад Пазьняка сканфіскавалі

**На беларуска-ўкраінскай мяжы 17 кастрычніка беларускія мытнікі і работнікі КДБ сканфіскавалі дзве тысячы асобнікаў «Беларускіх ведамасцяў».**

Бюлетэнь «Беларускія ведамасці» выдаецца за мяжою Зянонам Пазьняком, і менавіта гэта, на думку прэс-службы БНФ, з'яўляецца галоўнай прычынай пільнай увагі і адсочвання транспарціроўкі часопіса на Беларусь. У гэтым годзе канфіскацыя адбываецца ўжо у другі раз. *«Сёння на Беларусі інфармацыйнай прасторай кіруюць спецслужбы. Закон бяздзейнічае»,* — адзначаецца ў заяве прэс-службы БНФ.

**Андрэй ПРАКАПОВІЧ**

## Сала не прайшло

**Гомельскія пагранічнікі за адзін дзень (14 кастрычніка) правялі шэраг удалых затрыманняў.**

У раёне пункта пропуску «Новая Гута» пры незаконным пераходзе беларуска-украінскай мяжы была затрыманая грамадзянка Расіі, якая спрабавала пранесці каля 19 кілаграмаў макавай саломкі. Амаль у тым жа месцы пагранічнікамі былі затрыманыя дзве аўтамашыны «Волга», у якіх чатыры грамадзяніны Украіны спрабавалі ўвезці ў Беларусь 600 кілаграмаў грэцкіх арэхаў і 1 тону сала.

У гэты ж дзень у раёне прапускнога пункта «Весялоўка» пагранічнікамі затрыманыя 14 грамадзянаў Шры-Ланкі і чатыры грамадзяніны Афганістана, якія мелі намер незаконна перасячы дзяржаўную мяжу.

*БелаПАН*

## *Удакладненне*

У мінулым нумары нашай газеты праскочыла недарэчная памылка. У інфармацыі пра знаходжанне ў Мінску дэлегацыі літоўскіх прадпрымальнікаў мы выпадкова назвалі іх «латышамі». Прыносім прабачэнне нашым чытачам і суседзям-літоўцам за гэтую прыкрую памылку.

**РЭДАКЦЫЯ**



## БНФ святкуе

**Беларускі Народны Фронт святкуе сваё 10-годдзе.**

У нядзелю на плошчы Якуба Коласа ў Мінску прайшоў мітынг, на які сабралася каля паўтысячы чалавек. Выступалі Юрый Хадыка, Вінцук Вячорка, Лявон Баршчэўскі, Юрась Беленькі, Сяргей Папкоў ды іншыя лідэры БНФ. Падчас акцыі збіраліся подпісы за адстаўку прэзідэнта, а таксама прымаліся заявы аб уступленні ў БНФ. Як сцвярджаюць ва ўправе Фронту, уступіць у арганізацыю пажадала больш за 100 чалавек.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Добраахвотнікаў пакуль няма

**Пасля грозных заяў Лукашэнкі наконт сітуацыі ў Югаславіі некаторыя адыёзныя арганізацыі абвясцілі, што набіраюць добраахвотнікаў, каб паваяваць з *NATO* на баку сербаў. Да гэтай акцыі вырашыла «далучыцца» і Беларуская асацыяцыя маладых палітыкаў на чале з Анатолем Лябедзькам.**

БАМП таксама распачала запіс добраахвотнікаў у Югаславію, але, у адрозненне ад іншых, дзейнічае вельмі выбіральна. Маладыя палітыкі прапануюць запісацца не ўсім, а толькі дзецям і членам сем'яў А.Лукашэнкі, І.Ціцянкова, С.Касцяна, С.Гайдукевіча і іншых афіцыйных асобаў або самім гэтым асобам. Накіроўвацца яны могуць не толькі ў Югаславію, але і ў *«іншыя гарачыя кропкі свету, дзе прысутнічаюць ці могуць з'явіцца асабістыя інтарэсы грамадзяніна А.Лукашэнкі».*

У мінулую пятніцу маладыя палітыкі не дачакаліся плёну — ніхто не запісаўся. Наступнай пятніцай з 17:00 да 18:00 Асацыяцыя зробіць другую спробу. Каб адрасатам закліку было больш зручна, месца для правядзення запісу абранае побач з рэзідэнцыяй Лукашэнкі — каля кінатэатра «Піянер».

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## Савецкі суд – не самы справядлівы

**Мінскі гарадскі суд перагледзеў справу прыгаворанага да турмы епіскапа Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Пятра Гушчы.**

Калегія гарадскіх суддзяў на чале з Рыгорам Казырыцкім не пагадзілася з ранейшым рашэннем суда Савецкага раёна Мінска і знізіла пакаранне святару. Трохгадовае сядзенне ў турме для яго заменена на ўмоўнае пакаранне з адтэрміноўкай на два гады. Епіскап выпушчаны на волю, якой ён быў пазбаўлены з 6 сакавіка.

Каментуючы справу Пятра Гушчы, яго грамадскі абаронца адвакат Гары Паганяйла заявіў, што епіскапа праследвалі «менавіта па палітычных і рэлігійных прычынах». Але парушэнні заканадаўства пры затрыманні святара і расследаванні былі такія відавочныя, што ігнараваць іх аказалася немагчымым нават ва ўмовах *«прававога бязмежжа, якое пануе зараз у Беларусі».* Адвакат лічыць, што ў Пятра Гушчы ёсць усе падставы дабівацца поўнай рэабілітацыі.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

*Ліст у рэдакцыю*

# Костел не отдают



*Речицкий костел Святой Троицы, в котором сейчас находится бар.*

Уважаемая редакция! К вам снова обращаются католики г.Речица Гомельской области.

7 октября мы пошли в свой костел и стали там молиться. Мы никого не трогали, не нарушали общественного порядка, не шумели. Однако нас выгнали с помощью милиции. Молодые, здоровые милиционеры, которые годятся нам во внуки, выкручивали нам руки и оскорбляли нас. Нам очень обидно. Мы не знаем, что нам делать и к кому обращаться.

Вот уже почти семь лет, как мы добиваемся от местных властей, чтобы нам вернули здание костела, отобранное в 1932 году. Написали уже множество бумаг, обращались в горисполком, облисполком, Комитет госконтроля и к самому президенту А.Лукашенко. Но наши просьбы оказались безрезультатными, отовсюду нам присылают отписки, а дело передают на рассмотрение властей г.Речица, которые не хотят отдавать храм и отказывают нам под различными предлогами.

Сначала говорили, что нас мало — «всего 20 старух, и те скоро помрут». Однако откуда взять больше? Мы собираемся на службы в квартире. Места очень мало, и когда приходит много людей — негде повернуться. Когда мы собирали подписи о передаче храма, подписалось более ста человек. Но сейчас нас поддерживают в городе гораздо больше людей. Многие говорят, что ходили бы к нам, если бы было здание костела. А в квартире тесно.

Сейчас в костеле находится витаминный бар, и нам отказывают под тем предлогом, что если нам отдать здание, то детям негде будет попить сока. Но мы воспринимаем этот аргумент как откровенную насмешку. В здании костела активно торгуют спиртным, проводят свадьбы и юбилеи. Именно от этого получают почти весь доход.

Далее нам говорят, что необходимо трудоустроить 20 человек, которые сейчас работают в витаминном баре. Конечно, мы тоже против того, чтобы людей выбрасывали на улицу. Но дело тянется уже почти семь лет, и за это время городские власти не сделали никаких попыток, чтобы найти места работы для работников витаминного бара.

Причину нежелания властей города Речицы отдать нам храм мы видим в одном — они хотят получить от нас деньги. Раньше нам об этом официально писали, потом, узнав, что это требование противоречит закону, нам стали об этом говорить, прямо и намеками. Раньше требовали 100 тысяч долларов, теперь только 30 тысяч. Но у нас и таких денег нету. Нам говорят, чтобы мы попросили их у поляков. Но при чем тут поляки? Мы прожили в Речице всю свою жизнь, в костеле венчались наши родители, в нем нас крестили. Почему мы должны платить за то, что у нас отобрали? Много раз мы ходили на прием к председателю Речицкого горисполкома Н.Н.Зарезаке и председателю горсовета Н.В.Зайцеву. С нами вообще не хотели разговаривать, либо говорили очень грубо. А теперь вот уже издеваются с помощью милиции...

**Я.КОВНАЦКАЯ, С.СИНКОВСКАЯ, Г.ФРОЛОВА, Л.ФИЦНЕР, Л.БРЕССКАЯ, Э.ОНОШКО,** *г.Речица.*

*ДАГЕРРОТИП*

**Семен БУКЧИН**

# Тоска по ярму

В последнее время оживились разговоры вокруг идеологии. Умные люди говорят, что без идеологии ну никак нельзя. И все в дело лишь в том, что бывают плохие идеологии и хорошие. Естественно, нужно выбрать хорошую, и все будет о'кей. Ну плохая это ясно какая — коммунистическая. Поскольку была она насквозь фальшивая и потому, видимо, не уберегла Советский Союз от развала,

А какая — хорошая? О, тут у нас советчиков пруд пруди! Вот и на достопамятной встрече правителя с писателями последние буквально стонали и рыдали: ну дай же, дай нам, наконец, идеологию, ну объясни, наконец, что мы строим, какую Беларусь, мы ведь во тьме блуждаем, надобно факел зажечь... А он им так небрежненько: многие, мол, тут ко мне прибегали со всякими прожектами, поглядел я, полистал, ничего стоящего, мура это все, короче, поэтому спешить с этим делом не будем.

Но писатели — люди настырные. Как это — без идеологии? Столько лет с ней, родной, и вдруг без? Да невозможно это! Таиса Бондарь, главный редактор журнала «Всемирная литература», формулирует четко: *«Любое государство, желающее видеть себя независимым и сильным, всегда тратит немалые средства на утверждение избранной и проводимой идеологии, на идеологическую работу как среди своего населения, так и среди мировой общественности. И как бы она, эта работа ни называлась (коммунистической пропагандой, как в бывшем СССР, или защитой своих национальных интересов, как в США), как только позиция государства в проведении этой политики ослабевает, страна сразу же оказывается в паутине чужой идеологии, в чужой системе политических и духовных координат...»* («Советская Белоруссия», 8 октября).

Одним словом, не ослабела бы коммунистическая пропаганда в бывшем СССР, может и по сю пору выходили бы у Таисы Бондарь ежегодно пухлые романы про любовь, и гонорар был бы нечета нынешнему, и путевки в Пицунду, и еще много другого хорошего... Это, с одной стороны. А с другой — Таиса Бондарь и сегодня хорошо знает, как себя нужно вести писателю и какая нам всем, соответственно, нужна идеология. Прежде всего ни в коем случае нельзя «всем своим видом демонстрировать свое неприятие этого правительства и Президента». Вся мировая литература демонстрировала и демонстрирует неприятие своих правительств и президентов. И как-то живет. И даже Нобелевские премии получает. Но это мировая литература. А у Таисы Бондарь — «Всемирная литература». Деревенька, данная правителем на прокормление. Поэтому ей, Таисе, не полагается демонстрировать неприятие... Это Лермонтов бесшабашный мог себе позволить о своем государстве — «страна плетей, страна рабов». За это его, между прочим, и убили. За то, что позволял себе. Таиса же Бондарь, в отличие от Лермонтова, хорошо знает, что нужно делать: «...требуется выверенная и адресная государственная политика, когда заработает вся система: литературное творчество — жесткий отбор лучших литературных произведений... распространение журналов и книг через госзаказ...»

Работала бы, к примеру, такая система во времена Николая I, и тот же Лермонтов запросто издал бы свою «Смерть поэта». Поскольку имел бы госзаказ. И, соответственно, написал бы что-нибудь поприличнее этого возмутительного отклика на гибель Пушкина. Что же касается сути нынешнего госзаказа, то о нем очень понятно высказался правитель на той же встрече с писателями: *«Литература — это большая политика. Писатели — это большие политики... У вас очень сильное оружие. И я хочу, чтобы это оружие применялось во благо народа и нашего государства. Будете поддерживать государство, государство никогда вас не оттолкнет и всегда поддержит».*

Поскольку писательница и редактор «Всемирной литературы» главную задачу понимает правильно, ее и не «отталкивают». И даже напротив — весьма привечают. А вот Быков с Алексиевич не понимают и соответственно имеют в государственной кормушечке... То есть ничего не имеют. Как, впрочем, и многие другие писатели-неполитики. Политиком нужно быть! Это раньше писателей считали художниками. А теперь они — «большие политики». Кто сообразил — тот урвал кусок пирога. А плохой политик должен лапу сосать — такая у него судьба. Нужно поддерживать государство, а поскольку государство — это я... В общем, Людовик XIV был мудрый человек. И тоже пытался проводить свой «госзаказ» у Мольера. Но тот все-таки как-то умудрился написать «Тартюфа».

Нынешнего «короля-солнце» просто так вокруг пальца не обведешь. Он говорит: дайте достойные книги, и я издам. А кто будет определять, достойные или нет, кто будет проводить тот самый «жесткий отбор», о котором якобы мечтает Таиса Бондарь? Ну конечно, сам правитель. Может, еще Заметалина с Подгайным в помощники возьмет. Тоже начитанные люди. Вместе и определят, произведут тот самый «отбор». Быков, конечно, в число «лучших» не попадет. Как и Бородулин... Поскольку уровень не тот, не соответствует высокому эстетическому (политическому?) мерилу. А вот у редактора «Всемирной литературы» шанс серьезнейший. Поскольку знает Таиса Бондарь главное: «Народ (любой народ!) — в своей массе — никогда не ошибается». Бывали, правда, случаи. Немцы вот в 1933 году ошиблись. Но Тася этих ошибок не замечает. Она не с теми, кто не желает «признать собственную политическую неразборчивость и слепоту». Таиса Бондарь давно и хорошо во всем разобралась. Потому и глядит на мир с высот «Всемирной литературы». И оттуда же требует идеологии. Хотя сама давно уже все усвоила и поняла. Ибо сказано более чем недвусмысленно: *«Будете поддерживать государство, государство никогда вас не оттолкнет...»*

И я прошу государство: не надо отталкивать Таису Бондарь. Она хорошая. Ей бы еще немножко идеологии... Лямки, в которой как-то привычнее.

# Обещание чуда и ожидание голода

Константин СКУРАТОВИЧ

На прошлой неделе покупатели в рыбных магазинах Минска увидели до сих пор невиданное: помимо общих ценников, указывающих цену за килограмм товара, каждая рыбья тушка имела и свой собственный ценник. Поштучно не взвешивают разве что только кильку. Но если судить по цене («килька копченая провесная» в пятницу в рыбном магазине по улице Маркса стоила 200 тысяч за «кг»), скоро ее тоже будут продавать поштучно, как теперь продают импортные сигареты.

В ПРЕЖНИЕ времена, когда, экономии ради, в общепите по четвергам устраивали рыбные дни, хек становился их главным героем и в этом качестве вошел в историю СССР и советский фольклор.

Короче, хек, иваси, ставрида и скумбрия, не говоря уже о салаке, мойве и кильке, — это был тот фундамент, на котором зиждилась «продовольственная безопасность» простой, что называется, советской семьи при развитом социализме. Одновременно эта же рыба, а в особенности хек, заменяли советским котам и кошкам все эти новомодные *Kite Cat* и *Whiskas*. В трилогии Владимира Кунина о невероятных заграничных приключениях кота Мартына ностальгия по размороженному хеку едва ли не самое сильное чувство, испытываемое котом-патриотом. О нем он думает, даже поедая ворованную немецкую форель.

В общем, понятно, почему практически всех домохозяек больше всего возмущает рост цен на эту рыбу. Впрочем, они могут легко утешиться, вспомнив, что у нас быстрее всех в мире растет ВВП (валовый внутренний продукт). А коль растет, значит вырастет, и там, где раньше была муха, станет слон.

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ выяснилось, что внешние долги нам оплачивать практически нечем, кроме продовольствия. Договорились, например, с Россией, что в зачет долга за газ она примет белорусское мясо и масло на 200 миллионов долларов, а план по поставкам разверстали по райисполкомам. Умри, но выполни! А где его, это масло взять, если не отнимать у собственного населения? Ведь колхозы в прошлом году произвели на душу населения всего около 30 килограммов мяса (менее половины того, что необходимо человеку для нормального питания) и чуть больше 200 литров молока (половина средней физиологической потребности).

В этом году, по всем прогнозам, показатели колхозов еще более снизятся. По этой причине, средняя душа населения от колхозов потенциально может получить, если хватит на это денег, примерно 70 граммов мяса и около 100 граммов молока в день. Это, конечно, больше норм блокадного Ленинграда, но меньше среднедушевого потребления мясо-молочной продукции в 1913 году, и, вполне вероятно, сопоставимо с тем, что население Беларуси потребляло во время гитлеровской оккупации.

Такое мое заявление у многих, безусловно, вызовет реакцию эмоционального отторжения. Но, давайте, поразмышляем трезво. В 1940 году из 9 миллионов населения Беларуси около 80% проживало в сельской местности, а примерно половина крестьян — на территории западных областей, где советская власть не успела провести коллективизацию. И если даже сегодня трезвая сельская семья производит около одного центнера мяса на каждого своего члена, то в те времена в среднем крестьянском хозяйстве Западной Беларуси насчитывались десятки коров и свиней. К слову, в 1940 году поголовье скота насчитывало почти 8 миллионов голов, в середине нынешнего 1998 года — менее 7 миллионов.

Во время войны оккупационный режим, понятно, производил регулярные конфискации. Но такие же, если не более жесткие, реквизиции проводили и партизаны. Тем не менее, массового физического голода среди населения не было. Зато он наступил сразу же после восстановления советской власти, которая конфисковывала все то, что еще не успели забрать немцы. Об этом, кстати, очень хорошо написал Генрих Далидович в своем романе «Заходники».

КОНФИСКАЦИИ сельхозпродукции у крестьян проводились в течение всей советской истории. Практикуются они и сегодня — путем установления низких закупочных цен на подлежащую обязательной продаже государству сельхозпродукцию. В итоге имеем то, что имеем: падение уровня производства, разорение и вымирание деревни, и катастрофическое сокращение потребления основных продуктов питания в городах.

В этой связи очень важно понять следующее. Наше сельское хозяйство, представленное колхозами и совхозами, стремительно деградирует как отрасль экономики. Этого не могут не видеть и те, кто убеждает нас в его скором чудесном возрождении. Если мы им поверим, то в очередной раз окажемся глупыми жертвами довольно примитивного обмана и вполне натурального голода.

## Чарнобыль

**Еўрапейскі саюз прыняў рашэнне выдзеліць Украіне дапамогу ў памеры 203 мільёнаў долараў на рэканструкцыю чарнобыльскага саркафага, пад якім «пахаваны» чацвёрты энергаблок ЧАЭС. Украіна са свайго боку пацвердзіла, што выканае рашэнне аб закрыцці Чарнобыльскай атамнай станцыі да 2000 года.**

## Войска

**Расійскае міністэрства абароны вырашыла, што ў іхнім войску зашмат палкоўнікаў. У адміністрацыю Б.Ельцына паступіла прапанова ад мінабароны скараціць на 20% колькасць пасад для палкоўнікаў. Калі прэзідэнт пагодзіцца з прапановай ваенных, то з 39,7 тысячы палкоўнікаў у расійскім войску застанецца 31,8 тысячы чалавек.**

## Беспрацоўе

**У Расіі з-за крызісу многія кваліфікаваныя спецыялісты засталіся без працы і вымушаныя шукаць месца за мяжою. Як паведамляе газета «Коммерсантъ-Daily», колькасць кліентаў у агенцтвах, якія займаюцца працаўладкаваннем за мяжою, узрасла за апошні месяц у 10 разоў.**

*Взгляд с Запада*

# Не забывайте о простых россиянах

## Такой совет дает лидерам западных государств английская журналистка

**Энн ЭППЛБАУМ,**
***корреспондент лондонской газеты Evening Standard***

*«Попробуй представить себе: ты вечером ложишься спать, а на следующее утро просыпаешься совсем в другой стране»,* — говорит Ольга Наградова.

После 17 августа «абсолютно все изменилось». И продолжает меняться с головокружительной скоростью. По ее словам, ситуация не так тяжела, как об этом обычно сообщают. Неправда, например, что люди голодают. С другой стороны, — положение гораздо хуже, чем о нем говорят.

### В России опять переходный период

Россияне тратят свои рубли осмотрительно. Из-за того, что курс рубля продолжает резко меняться, прекращена выплата зарплаты таким людям, как Ольга, которая работает учительницей неполный рабочий день, а большую часть времени посвящает работе в партии Егора Гайдара. Поскольку банковские счета заморожены, люди, имевшие небольшой бизнес, внезапно оказались перед угрозой банкротства.

Короче говоря, люди, на которых сильнее всего сказался кризис, — это те, кто в последние 10 лет пытался что-нибудь создать; это все те, у кого есть банковский счет, это все те, кто сам ведет какое-либо дело или имеет работников по найму.

Как ни странно, но только немногие этим испуганы. То есть они не тревожатся, как выразилась Ольга, насчет «революции, гражданской войны или мирового кризиса» или даже возвращения к власти коммунистической партии. Они беспокоятся о возврате прошлого в другом смысле.

*«Я уже приобщилась к цивилизации,* — объясняет Ольга. — *Я не могу примириться с мыслью, что остаток жизни мне придется провести так же, как жили мои родители, — постоянно беспокоясь о мелочах, например, где купить мыло и сколько времени придется стоять в очереди за хлебом».*

Во многих отношениях Ольга — средняя россиянка. Она живет в стандартной двухкомнатной квартире в стандартном советском жилом массиве на северной окраине Москвы, у нее двое детей, и она зарабатывает 300 долларов в месяц. Именно это последнее обстоятельство делает ее действительно средней россиянкой. Подобно большинству россиян, она ценит некоторые из перемен, произошедших с 1991 года, в особенности улучшение состояния потребительского рынка, благодаря которому исчезли длинные очереди.

### Время мудро выбирать союзников

Большинство россиян не против реформ, но они против тех «реформ», которые проводит «ворократия», управляющая Россией. Большинство россиян прекрасно понимают, что экономическая система, построенная в их стране с 1991 года, — это не тот капитализм, который существует в Соединенных Штатах, а выборы депутатов, которых потом «покупают» олигархи, не имеют ничего общего с демократией, существующей в Западной Европе.

Да, россияне настроены против Ельцина. Они выступают против нынешнего российского руководства, ибо они поняли, что это руководство принесло им законы, которые не работают, правительство, которое утратило власть, и капитализм, который в значительной степени основывается на воровстве и взятках.

И вот здесь мы, Запад, сделали ошибку. Постоянно подчеркивая, что мы действуем заодно с «реформаторами», которые под руководством президента Бориса Ельцина управляли Россией в течение последних 10 лет, мы оттолкнули таких, как Ольга, и других россиян, которые были бы за демократию и капитализм, если бы это были подлинные демократия и капитализм.

Каждый раз, когда вице-президент Александр Гор говорил о «моем друге Викторе Черномырдине», каждый раз, когда президент Клинтон обнимал Ельцина, россияне получали вполне понятный урок. Запад был готов давать миллиарды долларов из Международного валютного фонда (МВФ) людям, которые «приватизировали» природные ресурсы своей страны, отдав их своим нескольким друзьям, ставшим ныне весьма богатыми.

Теперь Западу следует вести в отношении России намного более предусмотрительную и разумную политику. Мы не можем больше поддерживать любого лидера, пришедшего к власти. Напротив, Запад должен избегать оказания какой-либо моральной или финансовой поддержки любому российскому правительству и вместо этого подумать о таких людях, как Ольга. Это люди, которые в принципе поддерживают реформы, но им не нравится форма воплощения этих реформ в жизнь; это люди, которые пытаются создать или построить что-нибудь на том пустыре, который представляет из себя посткоммунистическая Россия.

### Новый подход к переменам

Западу следует поддержать новые общественные институты, деятельность которых представляет реальные перемены: организации по правам человека, объединения для свободной торговли, бизнес-школы, одну или две подлинные политические партии. Мы должны вести радиовещание на Россию на русском языке в таком большом объеме, какой мы только можем себе позволить, чтобы нейтрализовать влияние полусвободной российской прессы.

Запад имеет очень небольшое влияние (или вообще никакого) на плутократов, которые принимают макроэкономические решения в России, почему собственно деньги, предоставленные МВФ, и оказались разворованными или растраченными впустую. Однако мы можем повлиять на другие процессы, помогая воссоздать гражданское общество, разрушенное в России более 70 лет назад, слабые усилия по восстановлению которого оказались теперь уничтоженными нынешним экономическим кризисом.

Еще с тех пор, когда Петр Великий заставил своих подданных возвести на болоте Санкт-Петербург, перемены в России исходят из центра и внедряются силой. Теперь, если это произойдет, перемены должны идти от широких масс — и добровольно.

# Піначэта ўзялі пад варту

Брытанскія паліцэйскія затрымалі ў мінулую пятніцу ў Лондане былога дыктатара Чылі 82-гадовага генерала Аўгуста Пінача. Пінача знаходзіўся ў Лондане на лячэнні — у прыватнай клініцы яму зрабілі аперацыю спіны.

Аўгуста Пінача быў затрыманы па запыту Іспаніі. Іспанскі суд расследуе масавыя забойствы, учыненыя ў Чылі на працягу 17-гадовага дыктатарства генерала з 1973 па 1990 гады. Лічыцца, што Аўгуста Пінача адказны за болей чым 4 тысячы забойстваў нязгодных з ягонай палітыкай, сярод забітых былі і грамадзяне Іспаніі.

Пытанне аб тым, ці выдасць Вялікабрытанія Пінача іспанскім уладам, будзе разглядацца на працягу тыдняў, а то і месяцаў. Увесь гэты час генерал застанецца пад вартай у Цэнтральнай лонданскай клініцы.

Чылі ўжо паслала свайго дыпламата ў Вялікабрытанію, каб той дамогся вызвалення Аўгуста Пінача.

**Міхась КАРПОВІЧ**



*На здымку: былы чылійскі дыктатар Аўгуста Пінача.*

## Шыкоўны канцэрт

**Канцэрт вядомых беларускіх рок-гуртоў «Уліс», «Новае неба» і N.R.M. адбыўся ў мінулую суботу ў палацы культуры Мінскага трактарнага завода.**

Зала, разлічаная на 850 месцаў, не магла змясціць усіх жадаючых. Як лічаць заўзятары падобных імпрэзаў, такога маштабнага і відовішчнага шоу з удзелам беларускіх рок-калектываў у Беларусі яшчэ не было. Якасны гук, выдатнае асвятленне, цудоўныя выступленні лідэраў беларускага року стварылі сапраўднае адчуванне свята.

Канцэрт быў арганізаваны пры падтрымцы газеты НАВІНЫ і Хартыі'97.

**Б.П.**

## Каштоўнасці вярнуліся

**З Масквы ў горад Мсціслаў вяртаюцца каштоўныя гістарычныя экспанаты.**

118 археалагічных знаходак, якія калісьці выкапаў у Мсціслаўлі прафесар Расійскага інстытута археалогіі Леанід Аляксееў, вяртаюцца на радзіму. Пярсцёнкі, баявыя прылады XIII—XIV стагоддзяў, бранзалеты XV стагоддзя і іншыя знаходкі ўзбагацяць калекцыю мясцовага краязнаўчага музея. На жаль, каштоўныя помнікі беларускай гісторыі і культуры вяртаюцца ў Беларусь як знак удзячнасці асобнага навукоўцы. Абсалютная ж большасць беларускай спадчыны ў расійскіх музеях і сховішчах застаецца без усялякай перспектывы вяртання.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

*Заўтра*

## Адзін дзень з Кшыштафам Занусі

**У Мінск прыязджае сусветна вядомы польскі рэжысёр Кшыштаф Занусі. Праўда, толькі на адзін дзень — 21 кастрычніка.**

Заўтра а 15-й гадзіне на філасофска-эканамічным факультэце БДУ (вул. К.Маркса, 31) пройдзе сустрэча з рэжысёрам. Потым а 19-й гадзіне Кшыштафа Занусі можна будзе пабачыць яшчэ раз — у кінатэатры «Піянер» будзе дэманстравацца ягоны фільм «Брат нашага Бога». Цікава, што гэты фільм пастаўлены па п'есе Караля Вайтылы — менавіта так звалі Яна Паўла II да таго, як ён стаў Папам Рымскім. Яшчэ адна цікавая падрабязнасць: як высветлілася, Кшыштаф Занусі — пляменнік Яна Паўла II.

Фільм «Брат нашага Бога», як і аднайменная п'еса, прысвечаны лёсу ўдзельніка паўстання 1863 года маладога мастака Адама Хмялеўскага, якіныя пошукі свайго шляху да Бога. Адам Хмялеўскі адмовіўся ад мастацтва і, прыняўшы імя брата Альберта, прысвяціў усё сваё жыццё жабракам.

Ян Павел II пісаў, што лёс брата Альберта дапамог яму канчаткова вызначыцца, чаму прысвяціць сваё жыццё: *«У перыяд майго асабістага сыходу з мастацтва, літаратуры і тэатра я знайшоў у ім* (у Адаме Хмялеўскім — **Р.П.**) *асаблівую духоўную апору і ўзор радыкальнага выбару на шляху да прызвання».*

Паказ фільма ў Мінску прымеркаваны да дваццацігоддзя пантыфікату (прыняцце сану Папы Рымскага) Янам Паўлам II.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**



Кшыштаф Занусі.

*КАДРЫ*




***Хіба ж гэта жыццё?..***

# Даты і лёсы

## *20 кастрычніка*

**1818.** ЗША і Канада выраўнілі падзяліць паўночнаамерыканскі кантынент па 49-й паралелі.

**1928.** Карны атрад ГПУ параніў васьмю (!) кулямі і захапіў у палон «ляснога брата» Нічыпара Сапляка, які тэрарызаваў ваколіцы Брагіна і Хойнікаў. Аднойчы ён, напрыклад, абрабаваў Дзяржаўны банк у Брагіне, пакінуўшы цыдулку: «Мужыкія грошы на змаганне з бальшавіцкімі гадамі цалкам атрымаў балаховец Нічыпар Сапляк». Некалькі разоў затрымліваў паштальёнаў і паліў дзяржаўную карэспандэнцыю. Забіваў найбольш шкодных прадстаўнікоў цэнтральнай улады. Трыбунал у Хойніках прыгаварыў партызана да смерці. На расстрэл яго цягнулі па зямлі, бо пасля раная ён яшчэ не хадзіў. Пахавалі Сапляка ў яме пад сметнікам каля будынка Хойніцкага райвыканкама.

**1945.** На плебісцыце ў Манголіі насельніцтва прагаласавала за незалежнасць дзяржавы ад СССР і Кітая.

**1964.** У Парыжы ўпершыню выступіў з канцэртам славуты рок-гурт «Ролінг стоўнз». Шматлікія прыхільнікі музыкантаў паводзілі сябе не лепшым чынам, і паліцыі давялося арыштаваць 150 чалавек, каб спыніць беспарадак.

**1982.** У Маскве ў апошнія мінуты футбольнага матча з удзелам маскоўскага «Спартака» ўзнікла даўка на стадыёне. Былі ахвяры — загінула вялікая колькасць наведвальнікаў стадыёна. Савецкія сродкі масавай інфармацыі не паведамілі праўду пра трагічнае здарэнне, шырока вядома аб гэтым стала толькі ў час перабудовы, у 1989 годзе.

## *21 кастрычніка*

**1383.** Вітаўт ахрысціўся ў каталіцтва пад імем Віганда (так клікалі і ягонага хроснага бацьку-крыжака). Праз год ён перахрысціўся ў праваслаўе і прыняў імя Аляксандр. У 1386 г. будучы вялікі князь зноў перайшоў у каталіцтва, але імя Аляксандр захаваў.

**1520.** Фернан Магелан адкрыў і прайшоў праліў паміж Атлантычным і Ціхім акіянамі, які быў названы пазней у гонар гэтага славутага марахода Магеланавым пралівам.

**1805.** У марской Трафальгарскай бітве англійскі флот разграміў ваенна-марскія сілы Францыі і Іспаніі. У гэтай бітве загінуў славуты англійскі адмірал, галоўнакамандуючы брытанскага флота Г.Нэльсан.

**1833.** Нарадзіўся шведскі фабрыкант і вынаходнік дынаміту Альфрэд Нобель. Ягоная фабрыка спачатку выпускала нітрагліцэрын, пакуль не ўзарвалася ў 1864 г. (падчас гэтага выбуху загінуў малодшы брат Альфрэда). Праз тры гады ён запатэнтаваў новае, больш бяспечнае выбуховае рэчыва — дынаміт. Прыбыткі з продажу, а таксама з ягоных нафтавых радовішчаў дазволілі Нобелю ў 1901 г. заснаваць буйныя штогадовыя прэміі для ўшанавання выбітных навукоўцаў, пісьменнікаў і змагароў за мір.

**1868.** Нарадзіўся вынаходнік танка (і самога тэрміну «танк» для пазначэння бранявой машыны) англічанін Эрнэст Суінтан.

**1878.** Нарадзіўся першы рэктар БДУ, выбітны беларускі гісторык Уладзімір Пічэта.

**1920.** Канферэнцыя беларускіх партыяў сацыял-дэмакратаў, сацыялістаў-рэвалюцыянераў і сацыялістаў-федэралістаў звярнулася да сацыялістаў Польшчы, Расіі і ўсяго свету з просьбай пасадзейнічаць перагляду ўмоваў Рыжскага міру і вызваленню этнаграфічнай беларускай тэрыторыі ад акупацыйных польскіх і расійскіх войскаў.

**1923.** У Мюнхене адчыніўся першы ў свеце планетарый.

**1966.** Апоўзень гары шлаку знішчыў шахцёрскую вёску Аберфан (Уэльс). Загінулі 116 дзяцей і 28 дарослых. Мясцовыя ўлады папярэджвалі ўладальнікаў шахты пра небяспеку апоўзня, але безвынікова.

**1988.** У Лондане з'явіўся новы від сэрвісу: нейкая фірма прапаноўвае дастаўку разнастайных прэзерватываў «дахаты, у гатэль, кінатэатр, аўтамабіль, ліфт, парламент і г.д.».

## *22 кастрычніка*

**1844.** Нарадзілася вялікая французская актрыса Сара Бернар — настолькі папулярная, што тэатр, у якім яна іграла, змяніў сваю назву ў яе гонар. Падчас гастроляў у Паўднёвай Амерыцы яна параніла на сцэне калена і ў выніку гангрэны страціла нагу, але неўзабаве ізноў пачала выступаць з ранейшым поспехам. Цікава, што перад спектаклем любіла крыху адпачыць у труне.

**1919.** Нарадзілася старшыня Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады Раіса Жук-Грышкевіч, ініцыятар узвядзення ў Мідландзе (правінцыя Антарыо) у 1988 г. памятнага крыжа ў гонар 1000-х угодкаў хрысціянства ў Беларусі.

**1939.** У Заходняй Беларусі адбыліся адносна дэмакратычныя выбары ў Народны Сход. З 926 абраных дэпутатаў 563 былі з сялянаў і парабкаў, 621 — беларус. Амаль усе яны былі прыхільнікамі савецкай улады і далучэння да БССР.

**1986.** Прафесар Магдзі Якуб у шпіталі англійскага г.Харфілда перасадзіў наймаладзейшаму ў гісторыі трансплантацыяў пацыенту — 2,5-месячнаму дзіцяці сэрца 5-дзённага бельгійскага хлопчыка.

**1987.** У штаце Нью-Йорк паляўнічыя знайшлі на дрэве самалёт. Як высветлілася, ён узняўся ў паветра без пілота, калі той раскручваў для запуску прапелер, і праляцеў каля 100 км, пакуль не скончылася паліва.

*Падрыхтаваў*

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

## Францыя: школьнікі бунтуюць, а метро працуе без машыністаў

**Прыкладна 500 тысяч французскіх старшакласнікаў у мінулы чацвер выйшлі пратэставаць на вуліцы розных гарадоў краіны. Яны патрабавалі скараціць колькасць вучняў у класах, павялічыць матэрыяльную падтрымку школам, зменшыць хатнія заданні і г.д.**

У Парыжы ў маршы пратэсту да будынка міністэрства адукацыі ўдзельнічала 25 тысяч чалавек. Па дарозе пратэстанты разбівалі вітрыны і пераварочвалі аўтамабілі, але ў цэлым ахвяраў няма. Да таго ж лічыцца, што хуліганілі не навучэнцы, а несвядомая пазашкольная моладзь. Акрамя Парыжа, дэманстрацыі прайшлі ў Бардо, Ліёне, Руане і іншых гарадах. Міністр адукацыі Алегр паставіўся да акцыі са спачуваннем і заявіў, што лічыць усе патрабаванні заканамернымі, аднак іх выкананне давядзецца пачакаць. Зрэшты, хатнія заданні можна было б зменшыць і цяпер...

А прэзідэнт Францыі Жак Шырак у той самы дзень, калі школьнікі пратэставалі, адкрываў новую лінію парыжскага метро. Гэта першая новая лінія за апошнія 60 гадоў, яна пабудаваная з прымяненнем самых сучасных тэхналогіяў французскай прамысловасці: поўная аўтаматызацыя дазволіла нават арганізаваць работу без машыністаў. Пасажыраёмістасць лініі — 40 тысяч чалавек у гадзіну, даўжыня — 11 км. Хуткасць цягнікоў вышэйшая за звычайную, і ад станцыі *Madeleine* на правым беразе Сены да новай нацыянальнай бібліятэкі пасажыры будуць дабірацца за 12 хвілінаў.

## Смяротнасць ад СНІДу ў ЗША скарацілася

**Як адзначаецца ў справаздачы Нацыянальнага цэнтра статыстыкі, «чума XX стагоддзя» ў Амерыцы перамясцілася з 8-га месца сярод прычына ў смяротнасці на 14-е.**

Скарачэнне колькасці лятальных зыходаў міністр аховы здароўя ЗША Дона Шалэйла патлумачыла прымяненнем новых высокаэфектыўных лекаў — інгібітараў пратэазы. Апублікаваныя факты сведчаць, што прэпараты дапамагаюць працягнуць жыццё людзям, хворым на СНІД, аднак, як адзначыла міністр, пакуль немагчыма істотна скараціць колькасць выпадкаў заражэння ВІЧ-інфекцыяй. У справаздачы паведамляецца, што летась ад СНІДу памерла 16 тысяч 685 амерыканцаў, г.зн. у сярэднім 46 чалавек памірала кожны дзень. Два гады таму гэтая лічба складала 118 чалавек штодзень.

## Нямецкія зубы

У нямецкіх дзяцей на дзіва здаровыя зубы. Як паказала даследванне Саюза германскіх стаматолагаў, дзеці да 12 гадоў у Германіі маюць у сярэднім па 1,83 запламбаванага ці вырванага зуба на чалавека. Гэта значна лепшы паказчык у параўнанні з іншымі развітымі еўрапейскімі дзяржавамі.

На думку экспертаў, такія цудоўныя вынікі дало зніжэнне спажывання цукру і больш эфектыўная прафілактыка карыесу. Тым не менш нямецкія медыкі лічаць, што стварэнне медыкаментаў, якія б поўнасцю абаранілі чалавека ад карыесу — справа далёкай будучыні. А пакуль што самым надзейным спосабам абароны зубоў застаецца, як і дзесяцігоддзі таму, традыцыйная зубная шчотка і добрая паста.

## У басейне з кракадзілам

Аўстралійскі трэнер Марк Дэвіс вынайшаў новы спосаб, як навучыць дзяцей хутка плаваць. У басейн, дзе плавалі дзеці, трэнер выпускаў галоднага кракадзіла. Дзеці з жахам прыглядваюць «эксперыменты» трэнера. Тым не меней, трэнер сцвярджае, што ён ведаў максімальную хуткасць кракадзіла і выпускаў яго толькі калі не існавала ніякай небяспекі для дзяцей. Цяпер трэнер чакае суда, але відавочна, што ён больш не будзе трэніраваць дзяцей.

## Што трэба чалавеку для шчасця?

Цікавыя высновы зрабілі брытанскія навукоўцы, даследуючы ўздзеянне ежы на стан чалавека. З усіх прадуктаў самае моцнае адчуванне задавальнення і шчасця ў людзей выклікае... марожанае.

Аматары марожанага больш спакойныя, задаволеныя жыццём і не баяцца стрэсаў. Гэты прадукт, таксама як і шакалад ці бананы, садзейнічае выпрацоўцы ў арганізме сератаніну, які медыкі часам называюць «гармонам шчасця».

Як паказвае статыстыка, самыя апантаныя аматары марожанага ў Еўропе жывуць на Брытанскіх астравах — летась насельніцтва Вялікабрытаніі патрапіла на гэты ласунак амаль мільярд долараў (гэта больш, чым у Францыі і Германіі, разам узятых).

*Па матэрыялах замежнай прэсы падрыхтавала*
**Алена СУРКО** *і*
**Міхась КАРПОВІЧ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1250 Нумар падпісаны ў друк 19/10/98 (15:30) Наклад — 18 300.